№ 9 верасень 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

---

**Слова кожнае і кожны сказ бацькоўскі**
**Змалку трэба моцна бараніць...** ***Пімен Панчанка***

## *У НУМАРЫ:*

# НАШЫ НАВІНЫ

2 верасня ў Глыбокім прайшло рэспубліканскае свята – Дзень беларускага пісьменства, на якім было шмат гасцей, у тым ліку і з Пастаўшчыны. Пра гэты падзею чытайце ў артыкуле Вадзіма Шышко, які змешчаны ў гэтым нумары "Шыпшыны".




***

9 верасня ў Камаях адбылася адмысловая імпрэза з нагоды асвячэння адноўленага яўрэйскага могільніка. Уражаннямі аб падзеі дзеліцца ў гэтым нумары бюлетэня Ігар Пракаповіч.

***

13 верасня на пасяджэнні сяброў Таварыства беларускай мовы абмяркоўвалася тэма генацыду яўрэйскага насельніцтва ў час Другой сусветнай вайны ў Беларусі і на Пастаўшчыне. З грунтоўным дакладам па гэтым пытанні выступіла Тамара Храпавіцкая.



15 верасня ў Мядзеле адбылося рэспубліканскае свята паэзіі і песні, якое было прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка.




***

З 16 па 22 верасня на Пастаўшчыне праходзілі здымкі фільма пра лёс навучэнцаў Пастаўскага педагагічнага вучылішча, якія ўваходзілі ў арганізацыю Саюз беларускай моладзі і былі жорстка пакараныя савецкай уладай. Рэжысёрам фільма з'яўляецца вядомы беларускі майстар кіно Валеры Мазынскі.

***

18 верасня ў студыі тэлекампаніі "Паставы-TV" адбыўся запіс чарговай праграмы "Вертыкаль" з вядучым Іванам Шушкевічам. На гэты раз на ёй абмяркоўваўся стан беларускай мовы ў грамадстве, асаблівасці яе ўжывання на Пастаўшчыне, магчымасці развіцця мовы ў рэгіёне. У перадачы бралі ўдзел: намеснік старшыні райвыканкама Ю. Кісялёў, настаўніца беларускай мовы СШ № 2 Т. Захарэвіч, настаўнік геаграфіі Пастаўскай гімназіі, старшыня раённай арганізацыі ТБМ І. Пракаповіч.

***

21-23 верасня вучні пастаўскай раённай гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі І. Пракаповіча здзейснілі трохдзённую экспедыцыю ў ваколіцы вёскі Ярэва з мэтай вывучэння слядоў Першай сусветнай вайны ў гэтай мясцовасці.

***Вадзім Шышко***

# НЕКАТОРЫЯ РАЗВАЖАНЬНІ ПРА ТОЕ, ШТО ЁСЬЦЬ

## Зварот да беларускамоўнай інтэлектуальнай эліты

**(працяг, пачатак у №8-2012)**

Каб урэшце зразумець, навошта беларусам патрэбна беларуская мова, трэба выйсьці крыху далей за нашыя нацыянальныя рамкі, на агульначалавечы ўзровень. Як у свой час зазначыў вядомы нямецкі лінгвіст В. Гумбальдт – галоўнае і самае рэзкае адрозьненьне паміж мовамі ў тым, як, у якой меры той або іншы народ адлюстроўвае ў сваёй мове аб’ектыўную рэчаіснасьць або суб’ектыўную дзейнасьць. Мовы не могуць мець аднолькавага складу, бо народы, якія імі карыстаюцца, розныя, не аднолькавыя і ўмовы іх існаваньня.

Але з таго часу, калі жыў Гумбальдт, мінула ўжо два стагодзьдзі і сацыяльна-этнічныя ўмовы пражываньня чалавецтва зьмяніліся карэнным чынам. Два стагодзьдзі таму абсалютная большасьць насельніцтва жыла ў вёсцы, дзе навакольнае асяродзьдзе моцна ўплывала на паўсядзённае жыцьцё чалавека і тым самым, адпаведна, фармавала пасярэдніка ў выглядзе мовы паміж суб’ектам (чалавекам) і аб’ектам (навакольная рэчаіснасьць) узьдзеяньня і разуменьня. А так як умовы пражываньня ў кожнага народа былі непаўторна ўнікальнымі, то і адлюстраваньне іх у выглядзе мовы таксама стала такім жа.

Цяпер жа большасьць насельніцта амаль ва ўсіх краінах жыве ў гарадах. У адрозьненьне ад вёскі, дзе чалавек напрамую кантактуе з навакольным асяродзьдзем (якое ў кожным месцы планеты з’яўляецца непаўторным), у горадзе такі кантакт збольшага выключаецца. Прычым, чым горад большы, тым кантакту з навакольлем менш. А так як умовы жыцьця ў горадзе амаль паўсюль аднолькавыя, то і спосабы выразу навакольнай рэчаіснасьці зь цягам часу становяцца таксама амаль аднолькавыя. Адбываецца тое, што называюць словам глабалізацыя, ва ўсіх сэнсах. Сам па сабе гэты працэс нядрэнны, бо пры ўзаемадзеяньні культур людзям не патрэбна па некалькі разоў вынаходзіць адзін і той самы ровар. Але пры гэтым адбываецца і такая негатыўная з’ява, як нівеліроўка культур і разам з тым зьнікненьне самых розных моў, якія не пасьпелі сваечасова стаць “гарадзкімі”. Да якіх адносіцца і беларуская.

Зноў такі, вяртаючыся да першага пытаньня, калі нам для жыцьцязабясьпячэньня цалкам хапае любой іншай мовы, якая ўжо ўкаранілася ў горадзе (у дадзеным выпадку расейская), то навошта нам пашыраць беларускую?

Калі адказаць у маштабах нацыі, то можна сказаць так. У свой час навакольнае асяродзьдзе паўплывала на фармаваньне нейкай канкрэтнай мовы. І менавіта таму гэтая мова лепш за ўсё адлюстроўвае навакольную рэчаіснасьць у дадзеным канкрэтным месцы (у эскімоскай мове ёсьць некалькі дзясяткаў вызначэньняў рознага стану сьнегу, у нашай толькі некалькі, у якой-небудзь папуаскай увогуле ніводнага). І потым адбываецца цікавая трансфармацыя, калі для з’яўленьня мовы чалавек быў павінен “прапусьціць” праз сябе тую рэчаіснасьць, у якой ён жыве, то потым створаная на аснове мясцовых асаблівасьцяў мова ўжо сама, у сваю чаргу, пачынае ўплываць на працэс успрыняцьця чалавекам навакольнай рэчаіснасьці. Чалавек пачынае бачыць яе як бы праз прызму той мовы, якой ён карыстаецца.

Як заўважыў лінгвіст Эдуард Сепір: “Людзі жывуць ня толькі ў аб”ектыўным сьвеце і ня толькі ў сьвеце грамадзкай дзейнасьці, як гэта звычайна мяркуюць; яны ў значнай меры знаходзяцца пад уплывам той канкрэтнай мовы, якая стала сродкам выразу для дадзенага грамадзтва. Было б памылковым лічыць, што мы можам цалкам усьвядоміць рэчаіснасьць, не зьвяртаючыся да дапамогі мовы, ці што мова з’яўляецца пабочным сродкам вырашэньня некаторых адмысловых

праблем зносін і мысленьня. На самой жа справе «рэальны сьвет» у значнай ступені несьвядома будуецца на падставе моўных нормаў дадзенай групы... Мы бачым, чуем і ўспрымаем так ці інакш тыя ці іншыя з'явы галоўным чынам дзякуючы таму, што моўныя нормы нашага грамадзтва згадваюць дадзеную форму выказваньня".

Карацей, усе народы адны і тыя ж з'явы ўспрымаюць па-рознаму, у залежнасьці ад сваёй моўнай традыцыі. Як прыклад – пацікаўцеся, як адны і тыя ж самыя гукі якой-небудзь жывёлы перадаюцца ў розных мовах. А гэта значыць, што калі мы зь дзяцінства карыстаемся, напрыклад, рускай мовай, то тып нашага сьветаўспрыняцьця (менталітэт) пачынае імкнуцца менавіта да рускага.

Зноў жа, для простых людзей не мае вялікага значэньня, якая ў іх будзе ментальнасьць. Хоць кітайская, галоўнае, каб была магчымасьць задаволіць усе свае базавыя фізіялагічныя патрабаваньні. Але інтэлектуалаў працэс зьвядзеньне ўсіх моў да некалькіх не павінен пакінуць у спакоі.

Па-першае, чыста эстэтычна, нівеліроўка ўсіх арыгінальных этнічных культур да нейкай адзінай, надэтнічнай гарадзкой, зьбедніць увогуле ўсю нашу чалавечую культуру. Замест усіх колераў вясёлкі ў нас застанецца толькі адзін.

А па-другое, гэта яшчэ і больш глыбокая, інтэлектуальная праблема. Калі на планеце застанецца толькі некалькі асноўных моў, то і людзі будуць успрымаць навакольную рэчаіснасьць толькі праз гэтыя мовы. Умоўна кажучы, гэта як бачыць навакольны сьвет толькі ў інфрачырвоным выпраменьваньні, толькі гэта будзе датычыцца не таго, што мы бачым, а таго, як мы думаем, тыпу нашага мысьленьня.

Навошта ўвогуле ўсё гэта трэба? Для больш дынамічнага разьвіцьця ўсяго чалавецтва ў цэлым. Як ужо было зазначана вышэй, розныя мовы стымулююць розныя тыпы мысленьня чалавека, што, адпаведна, народзіць і розныя погляды і падыходы да адных і тых жа рэчаў, што дазволіць стварыць для якой-небудзь канкрэтнай рэчы або з'явы больш поўную і аб'ектыўную карціну. Канешне, для абмену створанымі ідэямі нядрэнна было б, каб ва ўсім сьвеце была нейкая адзіная надэтнічная мова. І не мае вялікага значэньня, што гэта будзе за мова. Але вельмі важна, каб у якасьці роднай мовы, на аснове якой будзе створана семантыка і менталітэт чалавека, заставалася свая.

І гэта датычыцца ўсіх інтэлектуалаў, у якіх ёсьць пачуцьцё адказнасьці, аб чым бы вы ні клапаціліся. Калі вас хвалюе будучыня ўсёй планеты, то вы павінны разумець, што ўніфікацыя мовы і культуры прывядзе да духоўнага крызісу ўсё чалавецтва. Калі вы хвалюецеся толькі за сваю асабістую нацыю і мову, то таксама разумееце, што калі ваша мова не стане агульнай на ўсёй планеце, то проста зьнікне, разам з вашай нацыяй. Калі адзінае, за што вы хвалюецеся, толькі за сваіх дзяцей, а ўсё астатняе гары сінім полымем, то таксама трэба разумець, што калі ніяк не супрацьстаяць глабальным працэсам зьнікненьня розных моў і культур, то вашыя дзеці будуць жыць у аднастайным сьвеце, што спачатку прывядзе да духоўнага крызісу, а за ім, звычайна, ідзе крызіс і матэрыяльны. Таму і трэба аб гэтым клапаціцца нават такім, здавалася б, на першы погляд зусім абстрагіраваным чынам, як захаваньне сваёй нацыянальнай мовы.

Такім чынам, мы адказалі і на другое пастаўленае намі пытаньне: чаму беларускамоўная інтэлектуальная эліта абавязана разьвіваць і пашыраць у беларускім грамадзтве менавіта беларускую мову, а не якую-небудзь іншую.

Але зноў паўтаруся, гэтая інфармацыя будзе карыснай і прыдатнай толькі для людзей інтэлектуальна разьвітых, бо для звычайнага чалавека, для якога жыцьцёвае шчасьце прама прапарцыянальнае памеру кавалка кілбасы ў яго талерцы, усе гэтыя разважаньні здадуцца калі і ня поўнай бязглуздзіцай, то дзіцячым блюзьнерствам як мінімум.

## “Я СЭРЦАМ ПІСАЎ СВАЮ КОЖНУЮ ПЕСНЮ”

### Рэспубліканскае свята паэзіі і песні ў Мядзеле да 100-годдзя Максіма Танка

У суботу, 15 верасня, горад Мядзел прымаў шматлікіх гасцей – прыхільнікаў і аматараў беларускай культуры. Тут, у сталіцы Нарачанскага краю, адзначалася стагоддзе з дня нараджэння аднаго з выдатнейшых дзеячаў беларускай літаратуры, паэта і грамадскага дзеяча Максіма Танка. Нездарма Мядзел быў абраны цэнтрам святкавання: славуты пісьменнік нарадзіўся на гэтай зямлі ў вёсцы Пількаўшчына і пахаваны, паводле яго жадання, на радзіме. І самі мядзельцы з вялікай пашанай і любоўю берагуць памяць пра свайго вядомага земляка.

У гэты дзень адбылося многа цікавых мерапрыемстваў з удзелам шматлікіх гасцей – пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў культуры, якія прыехалі на свята. На цэнтральнай плошчы горада перад будынкам дома культуры быў урачыста адкрыты памятны знак у гонар 100-годдзя Максіма Танка. Потым гасцей цёпла сустракала раённая бібліятэка. Яе загадчыца Людміла Несцяровіч эмацыянальна і на выдатнай беларускай мове прывітала ўдзельнікаў свята і расказала пра тую работу, якую праводзіць бібліятэка па прапагандзе беларускай літаратуры, па зборы і прэзентацыі матэрыялаў пра пісьменнікаў – ураджэнцаў Нарачанскага краю. Прысутныя маглі пазнаёміцца з густоўна афармленай выставай па жыцці і творчасці Максіма Танка, пабачыць і пагартаць яго кнігі, пачуць голас паэта, запісаны на радыё. З прамовамі перад прысутнымі выступілі намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі, які падарыў бібліятэцы толькі што перавыдадзены першы беларускі буквар, і кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ Анатоль Верабей, які перадаў у дар сваю кнігу “Максім Танк і польская літаратура”. Тут жа адбылося адкрыццё выставы па выніках Міжнароднага фотапленэра “Дарогамі Максіма Танка”.

Пасля бібліятэкі гасцей запрасілі на адкрыццё выставы “… і блізка родныя крыніцы, твой край юнацтва, край *бацькоў*”, якую наладзіў Мядзельскі музей народнай славы з матэрыялаў сваіх фондаў. На ёй былі прадстаўлены дакументы і рэчы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. Таксама адбылася і прэзентацыя невялічкай кніжачкі пра М. Танка “Усё жыццё я не любіў расстанняў…”, укладальніцай якой з’яўляецца дырэктар музея Святлана Чарняўская. З цёплымі словамі пра паэта выступілі яго землякі народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч і народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. Свой верш, прысвечаны М. Танку, прачытаў паэт, таксама ўраджэнец Мядзельшчыны, Мікола Шабовіч.



Тым часам у гарадскім доме культуры адбылася сустрэча з творчай групай хранікальна-дакументальнага фільма “Максім Танк”. На жаль, з прычыны накладкі мерапрыемстваў не ўсе жадаючыя змаглі пабываць на гэтай імпрэзе.

Афіцыйнае адкрыццё рэспубліканскага свята паэзіі і песні “Я сэрцам пісаў сваю кожную песню” адбылося а 14 гадзіне ў прыгожым амфітэатры на ўзбярэжжы возера Мястра. З прывітальным словам да

жыхароў Мядзела і гасцей горада звярнуўся міністр культуры Беларусі Павел Латушка. У разнастайнай святочнай праграме прагучала шмат песень у выкананні творчых калектываў Мінска і Мядзельскага раёна, з вершамі і ўспамінамі пра М. Танка выступілі пісьменнікі і мастакі. З літаратараў на свяце прысутнічалі В. Шніп, А. Карлюкевіч, В. Зуёнак, М. Шабовіч, М. Башлакоў, А. Быкаў, Р. Малахоўскі, В. Рагойша, А. Верабей, Г. Пашкоў, М. Мятліцкі, І. Пракаповіч, А. Бутэвіч, М. Мікуліч і іншыя.



Свята віравала на плошчы і суседніх вуліцах. Можна было пабачыць выставу малюнкаў з пленэра выхаванцаў Цэнтра дзіцячай творчасці, выступленне дзіцячых фальклорных калектываў, стэнд-прэзентацыю газеты "Нарачанская зара", а таксама пакаштаваць прадукцыю гандлёвых прадпрыемстваў горада і раёна, пабываць на выставе-кірмашы вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і промыслаў з майстар-класамі і кніжнай выставе, прысвечанай Году кнігі, пазнаёміцца з прэзентацыяй беларускіх выдавецтваў, часопісаў, газет.

Арганізатары мерапрыемства добра пастараліся і стварылі для ўдзельнікаў і гасцей сапраўднае свята. Вось толькі "нябесная канцылярыя" трошкі недапрацавала: у другой палове дня напаўзлі хмары, зацерушыў дождж. Але аматарам добрай паэзіі і песень было цёпла і ўтульна ад прачуленых слоў і шчырых спеваў... ***Ігар Пракаповіч***

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА Ў ГЛЫБОКІМ

## Уражанні Людмілы Сяменас

Цягнік прыбывае ў Глыбокае з Пастаў а дзясятай гадзіне раніцы. Ідзём па цёплым і мокрым асфальце. Нядаўна клалі і палівалі. Спяшаліся!



Першае, куды мы трапілі, былі сярэдневечныя баі рыцараў. Рыцары нежартоўна калацілі адзін аднаго цяжкімі мячамі. У перапынках паміж баямі дамы ў прыгожых доўгіх сукенках і пантофлях з доўгімі, на см. 30 насамі, танчылі сярэдневечныя танцы. Гук труб, стук барабанаў перанёс нас у часы, калі моцныя і адважныя мужы рызыкавалі жыццём у гонар дамы сэрца. Ідзём далей і апынаемся пад даглядам міліцыянераў на прадмет праносу на свята забароненых рэчаў. Непрыемнае ўражанне пакінулі амапаўцы. Да нас звярнуўся адзін: "Чё за праблемы?" А што трэба перш прывітацца, прадставіцца, а потым спытаць з добразычлівай усмешкай: "Чым я магу вам дапамагчы?" – пра гэта не думаў. Да такіх вышыняў яму, напэўна, трэба пражыць не адно жыццё, гэта было зразумела. Але не хацелася псаваць настрой, і, уздыхнуўшы, мы рушылі далей. Наперадзе нас чакалі падвор'і. Вельмі спадабаліся нашы суседзі літоўцы: на іх падвор'і маладыя жанчыны танчылі і спявалі, а старэйшыя частавалі хлебам,




сырам, тварагом, кілбасой, пальцам піханай, тартом "елка". Так што тут можна было няблага падсілкавацца. Наогул уразіла колькасць людзей на свяце: бачыш няспынны паток людзей, такую вялізную жывую плынь. А мы спяшаемся на адкрыццё галерэі знакамітых глыбачан. Спадабалася, што амаль усе прамовы на адкрыцці гаварыліся па-беларуску, а галерэю размясцілі там, дзе раней стаяла недарэчная фігура Леніна. Але і тут мы пакаштавалі лыжку дзёгцю. На адкрыццё галерэі прыйшло кіраўніцтва вобласці, былі прадстаўнікі рэспублілі, вядома, пад аховай людзей у цывільным. І каб вызваліць для іх шлях, нам, простым людзям, загадалі: "Все на тратуары, все на тратуары!" Нічога не зробіш, нам у мабілізацыйным парадку прыйшлося скакаць на тратуары, дзе месца таксама бракавала. Далей мы трапілі на выставу друку. Прыемна было паразмаўляць па-беларуску з прадстаўнікамі рэдакцыі газеты "Звязда" і атрымаць прэзенты: плакаты, календары і адмысловую асадку з фірменным лагатыпам.

Затым мы крочым да галоўнай сцэны, дзе адбываецца тэатралізаваная дзея ў гонар Кнігі. Ля яе пастаўлена шмат крэслаў, так што сесці можна было ўсім жадаючым. Сярод вядомых артыстаў мы пачулі Аляксандра Ціхановіча і Ядвігу Паплаўскую. Яны праспявалі свае новыя песні. А потым на сцэну падняліся пісьменнікі і паэты, пераможцы конкурсу "Залатая ліра" на чале са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Чаргінцом. Асабіста мяне ўразіла, што Чаргінец не валодае беларускай мовай. І прамаўляў ён нават і не па-руску, а на добрай трасяначцы. Прамаўляў доўга і нудна, мы не вытрымалі і пайшлі. Яшчэ раз прайшліся па падвор'ях замежных гасцей і беларусаў. Паглядзелі, як хараша танчылі латышы. Слухаць, як спяваюць на беларускіх падвор'ях рускамоўную папсу, не



хацелася. Мы накіраваліся да сваіх родных пастаўчан, тут нас сустрэў ансамбаль "Паазер'е" беларускай полькай. Былі вольныя столікі, за якімі мы ўладкаваліся і разгарнулі свае "ссабойкі". Уволю абмяняўшыся ўражаннямі, накіраваліся на цягнік, які адбываў у 18 гадзін. Шкада толькі было, што не змаглі паглядзець п'есу Г. Марчука "Кракаўскі студэнт" у выкананні трупы Купалаўскага тэатра. У нас быў добры настрой, і мы не пашкадавалі, што наведалі свята ў Глыбокім.

## АДНОЎЛЕНАЯ ПАМЯЦЬ

У нядзелю, 9 верасня, у Камаях адбылося адметнае мерапрыемства – асвячэнне аднаўленага даваеннага яўрэйскага могільніка. Яшчэ нядаўна на невялікім узвышэнні непадалёку ад жывёлагадоўчага комплексу рос хмызняк і густая высокая трава, а зараз гэта месца агароджана, прыбрана і ўладкавана так, як мусіць быць дагледжаны любы некропаль, дзе пахаваны людзі. У міжваенны час яўрэі адыгрывалі значную ролю ў жыцці мястэчак на Пастаўшчыне, у тым ліку і ў Камаях, але палітыка генацыду, якую праводзілі фашысты, прывяла да таго, што большасць з іх знайшла свой вечны спачын у брацкіх магілах у Паставах і Кабыльніку.




Ідэя аднаўлення занядбаных могілкаў належыць доктару філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, ураджэнцу Камаяў Юрасю Гарбінскаму і ксяндзу камайскага касцёла Яцэку Хутману. Асноўныя работы па добраўпарадкаванні выконвалі мясцовыя жыхары, тэхнікай дапамагалі ААТ "Камайскі-агра" і Пастаўскае ДРБУ.

На ўрачыстасці прыехала многа гасцей. Яўрэйскую дыяспару прадстаўлялі рабін з Мінска Борух Астроўскі, вядомы кантар Беларусі Анатоль Налівaеў, старшыня рэспубліканскага фонду "Халакост", дырэктар музея "Гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі" Вадзім Акапян, вядомы беларускі навуковец-ідышыст, аўтар фундаментальнага ідыш-беларускага слоўніка Аляксандр Астравух (дарэчы, ён падарыў 3 свае слоўнікі Яцэку Хутману, Пастаўскай раённай бібліятэцы, Пастаўскай арганізацыі ТБМ), беларускі навуковец-ідышыст і філосаф Юлія Міцура, палітолаг і перакладчык, рэдактар-выдавец вядомага яўрэйскага пэрыёдыка "Анахну Кан" ("Мы яшчэ тут!") у Мінску Вольф Рубінчык, філолаг і культуролаг Святлана Рубінчык, арганізатар экскурсій па яўрэйскіх мясцінах Беларусі Святлана Бергер, беларускі бард і перакладчык, выканаўца песень на ідыш Аляксей Жбанаў. З Паставаў прыехалі намеснік старшыні пастаў-скага райвыканкама Юрый Кісялёў, начальнік ДРБУ Станіслаў Рагіня, настаўніца СШ № 4 Тамара Храпавіцкая і аўтар гэтых радкоў.

Напачатку ў касцёле адбылася святая Імша па памерлых, якую адслужыў ксёндз Яцэк. З кароткімі прамовамі выступілі Ю. Кісялёў, Т. Храпавіцкая, А. Астравух, А. Налівaеў, Ю. Гарбінскі. Бард А. Жбанаў выканаў некалькі песень на ідыш і з перакладам на беларускую мову.

Пасля службы мерапрыемства прадоўжылася на аднаўленых могілках. Прадстаўнікі яўрэйскай дыяспары памаліліся за памерлых, а прадстаўнікі фонду "Халакост" уручылі невялікія падарункі ўсім, хто ўдзельнічаў у аднаўленні могільніка.

***Ігар Пракаповіч***



**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*